# АД ВЫДАВЕЦТВА

Сёлета спаўняецца 110 гадоў ад нараджэння Вацлава Іваноўскага /1880-7.XII.1943/ -- вучонага, палітычнага дзеяча, ветэрана беларускага адраджэньня, які поплеч з братамі Луцкевічамі стаўся адным з закладчыкаў першых беларускіх палітычных арганізацыяў. Вацюк Тройца /такі быў ягоны палітычны псеўданім/ прысьвяціў сваё жыцьцё абуджэньню ў нашым народзе пачуцьця нацыянальнае самасьвядомасьці, барацьбе за ягоную незалежнасьць.

Трагічна склаўся ягоны лёс. Афіцыйная савецкая гісторыяграфія, замоўчваючы праўду аб нашым славутым земляку, імкнулася выкрэсьліць ягонае імя з гісторыі ці згадвала аб ім толькі з ганебным ярлыком калабаранта.

Таму дадзенай публікацыяй мы паспрабавалі данесьці да шырокага чытача хоць некаторую інфармацыю пра Вацлава Іваноўскага, якую удалося сабраць. Яна ні ў якім разе не прэтэндуе на паўнату і вычарпальнасьць. Спадзяёмся,што сапраўднымі беларускімі гісторыкамі будуць праведзены і надрукаваны больш сур'ёзныя дасьледаваньні ўсяго таго, што тычыцца В. Іваноўскага,

Мы не мелі тэхнічных магчымасьцяў падаць багаты графічны матэр'ял: сямейныя здымкі,цудоўны партрэт П. Сергіевіча, некаторыя дакумэнты і інш. Іх можна знайсьці у такіх даступных выданьнях, як:

А. Федорук. Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., в-ва "Ураджай" 1989г.,с.215-216.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродненская вобласць. Мн., в-ва "БелСЭ", 1986 г.с.342.
Tadas Iwanauskas - Guvenimas ir veikła. Vilnius, „Mokslas„, 1976 m.

У гэтым юбілейным выданьні укладзены артыкулы, якія адлюстроўваюць розныя, часам супярэчлівыя погляды. Частка іх ўжо пабачыла сьвет на старонках эміграцыйнай прэсы /але мала вядома/, другія доўга ляжалі без надзеі дайсьці да шырокага чытача, трэція непасрэдна рыхтаваліся ў гэты выпуск. Дзеля аб'ектыўнасьці захаваны правапіс, у якім яны падаваліся ў арыгінале.

Выдавецтва не рабіла ніякіх каментароў і спадзяецца, што чытач сам зробіць для сябе патрэбныя высновы.

Усім аўтарам артыкулаў выдавецтва складае шчырую падзяку.

# ВЕТЭРАН БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

У плеядзе дзеячоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху самага пачатку XX-га стагоддзя віднае месца займае Вацюк Тройца /партыйны і літаратурны псеўдонім Вацлава Іваноўскага/. Ён быў адным з пачынальнікаў беларускага адраджэння таго часу, бадай нават адным з самых першых.

Калі дасюль прынята было лічыць, што першымі беларускімі палітычнымі арганізацыямі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку былі Беларуская рэвалюцыйная грамада /1903г./, перайменаваная затым у Беларускую сацыялістычную грамаду /1905 г./, дык маюцца звесткі,што іх папярэдніцай была Беларуская рэвалюцыйная партыя / 1902 г. /, адным з ініцыятараў стварэння якое і быў Вацлаў Іваноўскі. Гэтая арганізацыя пакінула след у выглядзе выдадзенай у 1902 годзе ў Пецярбурзе гэктаграфаванай адозвы "Да інтэлігенцыі" і спробы выдаць падпольную беларускую газету "Свабода".Нажаль след гэты амаль неўлавімы, бо дагэтуль даследчыкам не ўдалося адшукаць ніводнага экземпляра гэтай газеты, але аб ёй маюцца дакументальныя архіўныя сведчанні /гл. артыкул Ю.Туронка " Па слядах "Свабоды" у газеце "Ніва"№41 і №42 за 1981г./. Пазней В. Іваноўскі быў актыўным удзельнікам партыі "Беларуская сацыялістычная грамада" і ўжо з 1907г. друкаваўся ў газеце "Наша Ні-

ва" , якая адкрыла цэлую эпоху у станаўленні новай беларускай літаратуры.

Такім чынам Вацлава Іваноўскага па праву можам лічыць ветэранам беларускага адраджэнскага руху пачатку XX-га стагоддзя . Аб гэтым сведчаць факты. Пачынаючы ад маладаследаванай "Свабоды", цераз актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905 г. у радах Беларускай рэвалюцыйнай-сацыялістычнай грамады, супрацоўніцтва ў газеце "Наша Ніва" бадай ад самага яе заснавання -- гэтага ўжо даволі , каб Вацюка Тройцу аднесці да піянераў адраджэння.

Сягоння даследчыкі беларускага адраджэння робяць намаганні раскрыць забытыя эпізоды яго гісторыі , узняць імёны тых дзеячоў, якія трапілі ў забыццё. Нажаль на перашкодзе стаяць перажыткі акрэсленага перыяду, калі гісторыя трактавалася вельмі ўжо аднабакова. Адносна асобы Вацюка Тройцы тэндэнцыя замоўчвання пра яго гістарычную ролю асабліва выразная.

Гэта тлумачыцца з аднаго боку супярэчлівай ацэнкай ролі першых беларускіх легальных газет -- "Наша Доля" і "Наша Ніва", першых беларускіх палітычных арганізацый , а з другога боку яшчэ і тым фактам , што Вацлаў Іваноўскі падчас нямецкай акупацыі /1941-1943 г.г./ займаў становішча бурмістра горада Мінска. У сувязі з гэтым яго намагаюцца залічыць да паслугачоў акупацыйнага рэжыму , нават да ваенных злачынцаў , хаця гэта не адпавядае сапраўднасці . Маюцца дакументальныя сведчанні, што яго палітычная канцэпцыя была далёкая ад супрацоўніцтва з немцамі ўжо хаця б дзеля таго, што знаходзячыся на становішчы бурмістра Мінска ён утрымліваў цесныя кантакты з польскім антыфашысцкім падполлем.



Постаць Вацлава Іваноўскага цікавая яшчэ і тым, што ён не толькі праявіў сябе як актыўны грамадска-палітычны дзеяч, але быў і выдатным вучоным. Ён атрымаў грунтоўную адукацыю , быў доктарам тэхнічных навук,у міжваенным часе быў прафесарам Варшаўскай Палітэхнікі, узначальваў катэдру, здаецца, арганічнай хіміі.

Біяграфія Вацлава Іваноўскага амаль зусім не распрацаваная. Некалькі лаканічных звестак дадзена ў цікавай брашуры Юрыя Туронка, выдадзенай у Польшчы пад назваю " Беларуская праблема ў палітыцы лонданскага ўраду /1941-1944/", паколькі Іваноўскі меў непасрэдныя кантакты з Галоўным камандаваннем Арміі Краёвай і Дэлегатурай лонданскага эміграцыйнага ўраду. Вось гэтыя звесткі /ст. 139/:

" Вацлаў Іваноўскі /1880-1843/, скончыў Тэхналагічны Інстытут у Пецярбурзе /1904/, доктар тэхнічных навук / Мюнхен, 1909/, адзін з перадавых дзеячоў беларускага незалежніцкага руху /1902 - 1920/, прафесар Варшаўскай Палітэхнікі /1922-1939/ і Віленскага Універсітэту /1939-1941/."

Каб праліць крыху святла на постаць Вацюка Тройцы прывядзем тут некалькі ўрыўкаў з розных публікацый,якія былі выдадзены ў розным часе, дзе успамінаецца яго імя. Напэўна глыбейшыя дакументальныя пошукі і ўспаміны сучаснікаў, якіх хіба ўжо амаль

і не засталося , маглі б даць яшчэ многа цікавага матэрыялу, каб шырэй раскрыць жыццёвы шлях, характар і гістарычную ролю гэтага пачынальніка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Калі шукаць матэрыялаў да жыццяпісу і дзейнасці Вацлава Іваноўскага немагчыма не зацікавіцца тым асяроддзем, з якога ён выйшаў.

Прадстаўнік краёвай шляхты з Лідчыны , як і большыня яе дастаткова апалячанай , ён вельмі рана ўсведаміў сябе як беларус . Але як ні дзіўна з гэтае самай сям'і яго бацькі Леанарда Іваноўскага паходзілі і яго родныя браты : Юры, які лічыў сябе палякам і быў актыўным дзеячом ППС; Тадэуш/Тадас/, які усведаміў сябе літоўцам і стаў знаным вучоным сучаснай Літвы і яе шчырым патрыётам;урэшце малодшая сястра Галена і брат Станіслаў, якія пакінулі меншы след у гісторыі і таму сягоння цяжка акрэсліць іх нацыянальнае самаусведамленне. Галена студыявала ў Кембрыджы і яе артыкулы можна знайсці у беларускім часопісе "Саха" /1912г./ , але лёс яе і Станіслава не быў даследваны.

У гэтым парадоксе многанацыянальнай сям'і Іваноўскіх ёсць нейкая свая логіка,абумоўленая гістарычным лёсам гэтага краю, з якога яна паходзіла . Пакінуўшы пошукі этнагенэза сям'і Іваноўскіх, неабходна сцвердзіць , што яны з'яўляюцца нашчадкамі грамадзян той краіны , якая была аб'яднана некалі дзяржаўным фарміраваннем , якое называлася Вялікім Княствам Літоўскім, ці карацей - Літвой. А жыхарамі той Літвы былі ж і беларусы, і літоўцы, і украінцы, і нават часткова расейцы.Польскія ж традыцыі былі рэзультатам цеснага аб'яднання Літвы з Польшчай у аднэй Рэчыпаспалітай, што прывяло да апалячання бальшыні шляхты недзе з ХУІІ стагоддзя. Значыцца гэта была традыцыя ўжо многіх пакаленняў мясцовай шляхты . Да ўсяго гэтага абшары між Лідаю і Вільняй сапраўды з'яўляюцца беларуска-літоўскім этнаграфічным пагранiччам.



Можна зрабіць вывад, што сыны Леанарда Іваноўскага , з каторых кожны лічыў сябе прадстаўніком іншай нацыянальнасці, зрабілі свой выбар не дзеля кар'еры, а з шчырых пераконанняў ужо хаця бы дзеля таго , што іх нацыянальнае ўсведамленне адбылося ў часы, калі край знаходзіўся пад панаваннем царскай Расіі, дзе і палякі,і беларусы, і літоўцы былі народамі падняволеннымі ды знаходзіліся ў стане жорсткага нацыянальнага прыгнёту.

Між братамі не было, відаць, і антаганізмаў на нацыянальным грунце , бо яны нават дапамагалі сабе ў грамадска-палітычнай дзейнасці . Ёсць сведчанні,што ў спробе выдаць тую нелегальную беларускую газету "Свабода" актыўна дапамагалі Вацлаву браты Тадэуш і Юры . Відочна, з усёй сям'і толькі бацька Леанард , нягледзячы на польскую сямейную традыцыю і адносна прагрэсіўныя погляды ў сваёй гаспадарчай і навуковай дзейнасці, быў адзіным "вернападданым" Расійскай імперыі і да захапленняў сыноў рэвалюцыйным рухам адносіўся яўна варожа.

Тадэуш Іваноўскі -- пазней Тадас Іванаускас, знаны літоўскі вучоны,хаця не лічыў сябе беларусам

і да беларускага руху не прымкнуў,але не адносіўся да беларусаў варожа , а наадварот , праяўляў нават нейкую з імі салідарнасць, аб чым сведчыць апублікаваны пры яго непасрэдным удзеле артыкул у часопісі "Крывіч" за 1924 г. пад загалоўкам "Номэнклятура беларускіх птушак".

Гэтая наменклатура была апрацаваная камісіяй, у склад якой увайшлі: праф. Т. Івяноўскі, В. Ластоўскі і К. Дуж-Душэўскі."Крывіч" -- месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця . Год 1924, I /7/студзень-сакавік, рэдактар-выдавец К.Дуж-Душэўскі, рэдактар В. Ластоўскі, ст. 48-59 /дапаўненне ст. 118-119/.

Найбагацейшыя звесткі пра сям'ю Івяноўскіх можна знайсці бадай што у кнізе " Тадас Іванаўскас -- жыццё і дзейнасць ", выдавецтва "Мокслас", Вільнюс 1976 год. /на літоўскай мове/.

Прыводзім тут урывак, які адносіцца да ўсёй сям'і Івяноўскіх , у перакладзе на беларускую мову і рэзюмэ да кнігі,якое характэрызуе непасрэдна постаць брата Вацлава Івяноўскага -- праф. Тадаса Іванаўскаса.

*Лявон Луцкевіч*

# ПРА СЯМ'Ю ІВАНОЎСКІХ

## у кніжцы *"Тадас Іванаўскас — жыццё і дзейнасць"*

У Лідскай акрузе, там, дзе этнаграфічная мяжа аддзяляе Літву ад Беларусі, у двары Лябёдка , што непадалёку ад мястэчка Васільішкі, у 1882 годзе радзіўся Тадэуш Івяноўскі. У гэтым рэдка заселеным і не дужа ураджайным краі панавалі блізкія літоўцам звычаі, чутно было многа літоўскіх слоў. Адна,другая вёска былі зусім літоўскія . Прырода амаль зусім не адрожнівалася ад прыроды нашага края Дайнавы. Тут многа ройстаў, хмызнякоў, ручайкоў і невялічкіх пясчаных пагоркаў. А на поўнач ад Лябёдкі ў бок Літвы расцягнуліся амаль не кранутыя чалавекам лясы . Сярод гэтай прыгожай прыроды жылі цудоўныя людзі . Тадзік Івяноўскіх рос сярод іх і, як тое дрэва каранямі ў дзірван,урос у духовыя скарбы народнай культуры.

Каб зразумець, як у гэтым краі ў сям'і памешчыка наш слаўны прыродазнаўца вырас такім патрыётам, дэмакратам,які праз усё сваё доўгае жыццё узнімаў матэрыяльную і духовую культуру свайго краю, чаму ён не дэнацыяналізаваўся, як бальшыня яго равеснікаў , дзяцей памешчыкаў, што найчасцей лічылі сябе за палякаў,хоць крыху пазнаёмімся з не зусім тыповым асяроддзем, у якім рос і сталеў Тадзік,жылі яго працавітыя бацькі.

Яго бацька, Леанард Івано́ўскі, у маладосці не любіў праводзіць час са сваімі равеснікамі-дармаедамі . Будучы дапытлівым прыродазнаўцам ён збіраў калекцыі раслін, птушак; умеў рабіць выпханых птушак паводле найлепшай , як на той час, тэхналогіі. Ён скончыў гімназію ў Вільні і паступіў у Тэхналагічны інстытут у Пецярбурзе, дзе здабыў дыплом інжынера-тэхнолага.Пазней стаў спецыялістам па тэхналогіі вырабу спірту і віна; напісаў на гэтую тэму вычэрпываючую навуковую працу . Здабыўшы вялікі вопыт ён кіраваў будаўніцтвам вялікіх хімічных заводаў у Сібіры , на Урале і другіх мясцінах Расеі. Як інтэлігента з вялікай эрудыцыяй улады часта пасылалі Леанарда Іваноўскага заграніцу у справах эканомікі Расеі. Выконваў гэта з задаваленнем, бо дужа любіў падарожнічаць.Па даручэнню ўладаў аргатізоўваў выставы,якія адлюстроўвалі эканоміку царскай Расеі, у Парыжы, Турыне, Бэрліне ды іншых замежных гарадах. Валодаў некалькімі мовамі.

Харошае сяброўства лучыла Леанарда Іваноўскага з вялікім расейскім вучоным Дзімітрам Мендзелеевым. Калі Мендзелееў быў пакліканы ў Лонданскае Каралеўскае таварыства чытаць свой знаны даклад пра сутнасць перыядычнай сістэмы хімічных элементаў , дык Леанард Іваноўскі быў ягоным спадарожнікам і перакладаў яго даклад.

Леанард Іваноўскі жыў у Варшаве, пазней у Пецярбурзе. Быў сціплы, працавіты, любіў парадак,меў дэмакратычныя пагляды , вельмі шанаваў працу, шмат сілы аддаваў культуры свайго краю і таму усюды карыстаўся пашанай. З дзяцмі быў негаваркі і строгі, не любіў, калі яны туляліся без працы.Вось што напісаў у сваіх успамінах сябра Тадэуша Іваноўскага мастак Антон Жмудзінавічус , калі гасцяваў у яго падчас студыяў: "Аднойчы спакойна гутарачы ішлі мы з Тадзікам праз панадворак. Бацька Тадзіка быў у сваім кабінеце. Раптам вакно адчынілася і мы пачулі: "Тадзік! Чаго бадзяешся без справы! Зараз бяры граблі і ідзі памажы работнікам грабіць сена.Знайдзі граблі і пану Антону. Удваёх будзе весялей і шпарчэй . " /А. Жмудзінавічус, "Палітра і жыццё", Вільнюс, 1961/.



Леанард Іваноўскі лічыў сябе ліцьвіном, хаця па-літоўску гаварыць не ўмеў. Хаця і вырас сярод уплыву польскай культуры, Л.Іваноўскі не паддаваўся дэнацыяналізацыі, змагаўся супраць паланізацыі, і сваіх дзяцей вучыў змагацца супраць прыніжэння Літвы і ліцьвіноў. Гэта быў передавы чалавек, няверуючы, але талерантны ў адносінах да веруючых.

Нязвычайна любіў сваю радзіму, сваю гаспадарку, асабліва сад,які быў яго найвялікшым замілаваннем. Усе грошы выкарыстоўваў на ўвядзенне розных гаспадарчых навінак.

Неўраджайныя плошчы абсадзіў лесам, а пры сядзібе завёў на дваццаці гектарах сад са школкай. Калі на колькі дзён адрываўся ад працы ў горадзе, дык зараз спяшаўся да сваёй гаспадаркі. Прыехаўшы на кароткі час у Лябёдку , ён хуценька рабіў агляд усіх важнейшых гаспадарскіх работ. Падчас агляду яго павінны былі суправаджаць дзеці, каб пацікаві-

цца ўсімі яго заўвагамі і паясненнямі . Сваімі дасягненнямі дзяліўся з суседзямі сялянамі , даравaў ім гатунковае насенне збожжа і бульбы, часамі не пашкадаваў і пароднага парсючка ці бычка. Пладовыя дрэўкі аддаваў навакольным школам , бо хацеў, каб сады пашыраліся па ўсім родным краі. Прыязджаючы ў водпуск шмат клапаціўся , каб падняць гаспадарку свайго краю. У гародах Лябёдкі арганізаваў выставы збожжа , гародніны , пладоў. Дзеля ўзнагароджання удзельнікаў здабываў у міністэрстве сельскай гаспадаркі крыху грошай на прэміі і ганаровыя граматы.

Тадзік рос у грамадцы пяцёх дзяцей. Найстарэйшы быў Юрка, па ім Вацюк, Тадзік, Гэля і Стась. Аб выхаванні дзяцей найбольш рупілася маці і цётка Корбуціха . Апошняя стала знаходзілася з дзяцьмі, прывівала ім любоў да Літвы . Яна была сябрам для дзяцей -- не карала іх за дробныя правіннасці, заступалася перад грозным бацькам. Дзеці апавядалі ёй свае таямніцы. Цётка мірыла іх, калі часам сварыліся між сабой . Аднойчы дзеці паспрачаліся, хто з іх з'есць найбольш агідную рэч і прасілі цётку быць суддзёю. Адзін з'еў хрушча,другі жабу, трэці слімака, чацверты -- таракана. Цётка вырашыла, што найбольш агідна было з'есці таракана, і ўсе згадзіліся з яе поглядам . Аднак хто заняў першае месца няведама. Хутчэй за ўсё Тадзік,бо прафесар неаднаразова апавядаў пра гэтае здарэнне,але ніколі не казаў, хто перамог.

Хаця дзеці мелі гувернантак і настаўнікаў, якія вучылі іх мовам , але дзеці не раслі раздуронымі,



выконвалі ўсе гаспадарскія работы, сябравалі з работнікамі і іх дзецьмі.З радасцю карысталіся ўсімі прыемнасцямі , што прыносілі змены пары году. Увосень, калі дні станавіліся ўсё карацейшымі, многа радасці прыносіла ім малацьба.

Дзеці Іваноўскіх любілі памагаць садоўнікам, рабілі этыкеткі для школкі, плялі кашы для збора ураджаю з рознага колеру лазы, якую спецыяльна для гэтай мэты гадавалі ў Лябёдцы.

А колькі радасці прыносілі замёрзшыя рэчкі і сажалкі, першы снег! Дзеці слізгаліся з сабакамі, якіх у Лябёдцы не бракавала.Асабліва любілі гуляць з кудлатым санбернарам Грыфам. Аднак найбольш радасныя ўражанні пакінулі Тадзіку Іваноўскаму доўгія і рамантычныя васеннія і зімовыя вечары, калі ўся сям'я, сабраўшыся ў вялікім званым "жаночым пакоі", скубала пер'е , высыпала з галовак мак, лушчыла фасолю і рабіла іншую нескладаную работу, пры якой дзяўчаты пялі песні, апавядалі казкі, легенды, паданні . У печы патрэсквалі тоўстыя бярозавыя дровы, гудзеў бабулін калаўротак, а Тадзік, выгодна уладкаваўшыся недзе ў куточку з асаблівай увагай слухаў апавяданні пра злых духаў, розныя страхоцці, смешныя здарэнні , пра дзяўчат, што павыходзілі замуж у чужыя краі,пра балотных чарцей. Бясконца краналі чулую дзіцячую душу звонкія песні дзукаў і беларусаў, якіх мелодыі ён запамятаваў да канца свайго жыцця. Часамі цётка апавядала цікавыя здарэнні з гісторыі Літвы , дэкламавала або чытала творы Л. Кандратовіча, А. Міцкевіча, якія адлюст-

роўвалі гераічную мінуўшчыну Літвы, --"Конрада Валенрода", "Гражыну", "Пана Тадэуша". Хаця "Пан Тадэуш" быў хлапцу не зусім зразумелы,аднак яму вельмі падабаліся задзіўляюча прыгожыя апісанні роднай прыроды.Яго хвалявалі "сядзібы ў абсадах дрэў, гасцінцы высаджаныя бярозамі,прыдарожныя капліччкі, зацягнутыя туманам балотныя сенажаці, простыя людзі, але з шчырым сэрцам і глыбокімі пачуццямі".

з літоўскай пераклалі *Галіна Войцік*

*Лявон Луцкевіч*

## *М. Гарэцкі* . Гісторыя Беларускае літэратуры . Вільня , 1920 г., с 205

ТРОЙЦА , ВАЦЮК /проф. Івануоўскі/ -- даўнейшы правадыр руху адраджэньня , арганізатар выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца", аўтор популярных артыкулаў і брошурак, а таксама першага беларускага унівэрсітэцкага курса хэміі, п р а ц а ў н і к н а д с т в а р э н ь н е м б е л а р у с к а й к н і ж н а й т э р м і н о л ё г і і . Родам з Лідчыны /двор Лябёдка/.

## *Ф. Турук* . Белорусское движение. М. 1921 г. с 12

В Лебёдке , Лидск. у. Виленской губ., В. Ивановским с братьями / петербургские студенты / была издана на мимиографе газ. "Свобода" / один только номер / , но по полицейским условиям всё издание пришлось уничтожить / остались I экз. в Варшаве в охранном отделении и 2 экз. у жены Киркора в Вильне /.

# ПРА ВАЦЛАВА ІВАНОЎСКАГА

**ў кніжцы *"За дваццаць пяць гадоў"***

Некаторыя звесткі аб пачатках грамадска-палітычнай дзейнасці Вацлава Іваноўскага можам знайсці ў сціплай кніжачцы Антона Луцкевіча "За дваццаць пяць гадоў", выдадзенай у Вільні ў 1928 годзе, а напісанай у турэмнай камеры на Лукішках. Кніга закранае гісторыю беларускіх палітычных арганізацый " Беларуская рэвалюцыйная грамада", перайменаваная пазней на "Беларускую сацыялістычную грамаду" і напісана была з нагоды дваццаціпяцігоддзя заснавання.

У прадмове аўтар зазначае, што "палітычны бок беларускага адраджэнскага руху ня мае свайго даследчыка і гісторыка /.../ Спадзяюся, што нашы маладыя працаўнікі на ніве роднае гісторыі -- асабліва у Усходняй Беларусі, дзе перад імі расчынены ўсе тайныя дагэтуль палітычныя архівы, распрацуюць магчыма поўна і ўсестаронна палітычна-рэвалюцыйны бок нашага адраджэнскага руху. Сам жа /.../ седзячы ў вастрозе, не маючы ніякіх пісаных ці друкаваных матэрыялаў, магу апіраціа толькі на сваёй памяці, ды запісаць тое, што ў ёй -- пэўне ж дужа неідэальна -- захавалася".

Вось, што там упамінаецца пра Вацлава Іваноўскага.

"У 1902 годзе мы з Іванам скончылі менскую гімназію і паехалі далей вучыцца у пецярбурскі уні-



вэрсітэт . Іван аднача́сова хадзіў на юрыдычны факультэт і -- вечарамі -- слухаў лекцыі ў археалагічным інстытуце, які і скончыў у працягу двух гадоў. Я запісаўся на прыроду./.../

У першыя-ж дні пасьля прыезду ў сталіцу мы бліжэй зышліся з Вацлавам Іваноўскім , тады студэнтам тэхналягічнага інстытуту, родам з Лідчыны, і стварылі цесную , добра "сьпетую" тройку ,узяўшую на сябе ініцыятыву , а пасьля й кіраўніцтва ўсёй працай сярод беларускага студэнцтва. У канцы 1902 году намі была закладзена культурна-асьветная арганізацыя -- Кружок Беларускае Народнае Асьветы. Арганізацыя на першым месцы ў сваёй праграме паставіла: друкаваньне беларускіх кніжак і тварэньне беларускае школы для народу. Была выдадзена адозва да грамадзянства /па польску/, клікаўшая ўсіх грамадзян беларусі -- незалежна ад іх культурна-нацыянальнае прыналежнасьці -- працягнуць руку помачы беларускім масам, каб яны маглі стануць на ўласныя ногі і вызваліцца культурна ад чужынцаў . Пачалі зьбіраць складкі , ладзіць вечарыны, ды гэтак зложыўся невялікі фонд , з якім мы і прыступілі да друку "Вязанкі" Янкі Лучыны /ў 1903 годзе/...Але у меру таго, як выяўляліся дужа няпрыхільныя адносіны да беларускае справы з боку абшарніцкае інтэлігенцыі, якая яўна працавала над апалячаньнем беларускага сялянства,у меру таго,як мы глыбей усьведамлялі істоту сацыяльных адносінаў у Беларусі і бліжэй станавіліся да працоўных масаў ды іхніх бедаў і патрэбаў , -- сярод нас крапчэла думка, што

шлях да адраджэньня й вызваленьня нашага народу вядзе ня тудой . Волю сабе можа адваяваць толькі сам народ.Нацыянальную культуру мы адбудуем толькі тады , калі ўлада ў-ва ўсёй Расеі пяройдзе ў рукі дэмакратыі,калі Беларусь здабудзе прынамся аўтаномію ў ёй . Так думалі мы тады і пачалі шукаць шляхоў дзеля зьдзейсьненьня гэтага." /ст. 8-9/.

Гэты урывак характэрызуе светапагляд Вацлава Іваноўскага на пачатку XX стагоддзя, яго ролю, як аднаго з пачынальнікаў беларускага адраджэнскага руху таго часу.

"...У 1905 годзе ўлетку была зроблена спроба выпусьціць першы нумар падпольнага органу "Грамады" /яшчэ "Рэвалюцыйнай"/ пад назовам "Свабода". Узяўся з'арганізаваць гэту справу Вацюк Іваноўскі. Нажаль, газэта сьвету не пабачыла : як апавядае Іваноўскі, нумар быў ужо адбіты на цыклястылю, калі ў кватэру , дзе йшла работа , прынесьлі вестку , што туды йдзе паліцыя на вобыск . Ня маючы магчымасьці вынясьці наклад , асобы , якія адбівалі "Свабоду", зьнішчылі ўсе адбіткі , і ніводзін жывы чалавек не пабачыў гэтае першае спробы выпусьціць беларускі рэвалюцыйны орган у беларускай мове..."

Доследы Ю. Туронка, апублікаваныя ў артыкуле "Па слядох "Свабоды" / "Ніва" № 43 за 1981 год / аспрэчваюць і час, і тыя факты,што пададзены ў гэтым урыўку са слоў Іваноўскага,аднак і тут пацвярджаецца яго непасрэднае дачыненне да выдання няздзейсненай нелегальнай газеты "Свабода".

У кніжцы адзначаецца выдатная роля Іваноўскага ў дзейнасці першых беларускіх палітычных арганіза-



цый. Аб гэтым зусім канкрэтна сказана на ст.22-23:

"...Трэба было неяк паразумецца, вызначыць сабе супольную лінію, мацней звязаць паасобныя цэнтры , стварыць крэпкую, добра спаяную арганізацыю з адным выбраным кіраўнічым органам / дагэтуль кіраўніцтва неяк само сабой аставалася ў руках нашае тройкі -- Івана, Іваноўскага і маіх,як тварцоў арганізацыі/. Рэвалюцыйныя падзеі 1905 году асабліва вымагалі такога адзінства: пасьля кастрычніцкавага маніфэсту і пераходу ўлады ад абароны да наступленьня, трэба было вельмі добра абдумаць шлях далейшае працы . Дзеля гэтага ў канцы 1905 году быў склікані партыйны /дэлегацкі/ зьезд Б.Р.Г. /.../

На зьезьдзе былі: з Менску -- Іван, я, Уласаў, Каганец, Зелезей, Шабуня, Земенцкі, ды рад сялянскіх дэлегатаў з Ігуменскага , Менскага і Слуцкага паветаў; з Вільні -- "Цётка", Бурбіс, Стэцкевіч ды Аўген Хлебцэвіч; з Пецербургу -- Іваноўскі ды йшчэ нехта, каго не прыпамінаю. Усяго было душ 20./.../ Сцьвярджэньне..., што наагул у партыі цалком пануе сацыялістычная ідэалёгія,мела сваім вынікам зьмену партыйнага назову на "Беларуская Сацыялістычная Грамада", што было прынята аднагалосна. /.../

У канцы быў выбраны Цэнтральны Камітэт. Усяго было выбрана 5 асоб /тры сябры і два кандыдаты,толькі не памятаю, хто за каго: Іван, я, Уласаў,Іваноўскі, Бурбіс . Новаму Ц.К. была загадана, паміж іншым, арганізацыя партыйнае падпольнае друкарні, што было падрыхтавана ўжо раней : Фэлюк Стэцкевіч быў спэцыяльна адкамандзіраваны да чужое нелегаль-

нае друкарні у Вільні , каб навучыўся друкарскае штукі , ды ўжо многа папрацаваў на гэтым груньце, складаючы беларускія адозвы для віленскае арганізацыі. /ст. 25/".

*Лявон Крывіцкі*

# ПА СЛЯДАХ "СВАБОДЫ"

Па-рознаму злажыліся лёсы беларускіх пазацэнзурных перыёдыкаў другой паловы XIX і пачатку XX стагоддзяў . Некаторыя з іх , як напр. "Мужыцкая праўда" /1862/ і "Гомон" /1884/, дачакаліся шматлікіх распрацовак , тым не менш далей прыцягваюць увагу даследчыкаў.

У гэтых адносінах рашуча не шанцавала "Свабодзе" , задуманай як падпольны рэвалюцыйны часопіс. На гэта былі істотныя прычыны: па-першае, наколькі вядома , часопіс не распаўсюджваўся і, па-другое, да гэтай пары не знойдзены яго поўны тэкст. Усё ж само з'яўленне "Свабоды" было цікавай і немалаважнай падзеяй у беларускім руху, у сувязі з чым звесткі пра яе неаднаразова паяўляліся як у даваенных, так і пасляваенных выданнях. Пры гэтым не абышлося і без контраверсій, м. інш. адносна даты выпуску.

Першы па гэтаму пытанню выказаўся Максім Гарэцкі, які ў сваёй "Гісторыі беларускае літаратуры" /1920 , с. 206/ падаў, што "Свабода" выйшла ў 1903 годзе . Аляксандр Бурбіс крыху пазней пісаў, што паўстала яна ў 1902 годзе /"Вестник Наркомпрос БССР, 1921 №1/, а Антон Луцкевіч не раз заяўляў , што яе выданне адбылося ў 1905 годзе /гл. яго " За 25 гадоў", 1928, с. 16 і "Народная справа", 1926 № 20/. Сам жа выдавец "Свабоды", Вацлаў Іваноўскі, у сваім лісце Адаму Станкевічу ад 16 лістапада 1934

г. сцвердзіў, што паўстала яна зімой 1899/1900 года , на што Станкевіч заўважыў, што, на яго думку, адбылося гэта "якімі двума гадамі пазней" /гл. яго " Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення", 1934, с. 73/. На гэтую інфармацыю Іваноўскага абапіраюцца сучасныя даследчыкі і публіцысты /гл."История белорусской дооктябрьской литературы", Мінск 1977, с. 353/.

Такую магчымасць падказваў Іваноўскі, які у цытаваным лісце Станкевічу адзначыў, што адбіты на цыкластылі/гектографе/ у двары яго бацькоў Лябёдцы на Лідчыне тыраж "Свабоды" 200 экземпляраў адвёз ён неадкладна ў Варшаву, на кватэру свайго брата Юрыя, адкуль мелі яе распаўсюджваць варшаўскія беларусы. На жаль , у сувязі з арыштам Юрыя, на яго кватэры адбыўся вобыск і амаль увесь дастаўлены з Лябёдкі тыраж дастаўся царскай паліцыі.

Гэтая інфармацыя сугеравала мэтазгоднасць пошукаў у актах варшаўскай ахранкі. Тут нам крыху пашанцавала . У Галоўным Архіве Даўніх Актаў былі знойдзены матэрыялы Пракурора Варшаўскай Судовай Палаты, а ў іх ліку -- аб'ёмістая справа Юрыя Іваноўскага /сігнатура 3107/. Як сведчаць дакументы, быў ён арыштаваны ў ноч з 14 на 15 студзеня 1903г. /новага стылю, які абавязваў у польскіх губернях/. Адначасова на яго кватэры быў праведзены вобыск і складзены пратакол канфіскаваных рэчавых доказаў яго "праступнай дзейнасці". У іх ліку ў пратаколе значыўся... "№ 1 за 1903 год революционного журнала на белорусском языке "Свобода"!



Такім чынам былі атрыманы першыя дакументальныя звесткі пра "Свабоду", якія дазволілі дакладна акрэсліць час яе выпуску. Супастаўляючы гэтыя звесткі з літаратурнымі данымі, у прыватнасці з цытаванай кніжкай Станкевіча, можам рэканструяваць ход падзей, якія папярэдзілі паўстанне "Свабоды".

Задума стварэння нелегальнага і незалежнага беларускага выдавецтва паўстала ў студэнта пецярбургскага Тэхналагічнага інстытута В. Іваноўскага не пазней вясны 1902 г. Першым крокам у ажыццяўленні гэтага праекта было здабыццё апарата для размножвання тэкстаў , на што прызначыў ён увесь свой заробак з летняй студэнцкай практыкі. Восенню 1902 г. гэты апарат/цыкластыль/ быў куплены нелегальна, у чым Іваноўскаму дапамог Мечыслаў Міхаловіч -- тагачасны дзеяч ППС у Пецярбурзе і пазнейшы прафесар і рэктар Варшаўскага універсітэта.

Восенню гэтага ж года прыбыло ў Пецярбург некалькі студэнтаў-першакурснікаў , якія неўзабаве ўключыліся ў падрыхтоўку "Свабоды". У іх ліку Алаіза Пашкевічанка /Цётка/ , якая дэбютавала іменна на старонках гэтага часопіса /верш "Мужыцкая доля" / . Паводле Іваноўскага, у рэдакцыйнай працы ўдзельнічаў таксама Іван Луцкевіч, чаго аднак не пацвердзіў Антон Луцкевіч ні ў якой сваёй публікацыі. У гэтай справе дапамагаў Іваноўскаму яшчэ і Лявон Малецкі. Рукапісныя матрыцы /кірыліцай/ падрыхтавалі Рамуальд Міллер і Вінцук Валейка. Тэхнічная работа была выканана ў Лябёдцы ў час летніх канікулаў у канцы снежня 1902 года па старому сты-

лю. Тут адбіваннем "Свабоды" займаліся Вацлаў і Тадас Іваноўскія і Антон Валейка з братам.

Вернемся яшчэ да лёсу гэтага часопісу, паколькі прадстаўленую вышэй версію аб яго канфіскацыі нельга лічыць задавальняючай. Справа ў тым, што, як паказвае пратакол вобыску, на кватэры Юрыя Іваноўскага быў знойдзены не амаль увесь тыраж "Свабоды", а толькі адзін яе экземпляр. У гэтым не было сумнення: пратакол быў надта падрабязны, у ім падавалася нават колькасць чыстых паштовых адкрытак.

Што ж тады сталася з "Свабодай", куды падзеўся яе тыраж? Няўжо Юры Іваноўскі паспеў перадаць яго ў адпаведныя рукі, пакінуўшы сабе толькі адзін адбітак? Думаю, што не. У наступныя гады абодва браты былі ж у цесным кантакце і аб такой перадачы Вацлаў быў бы паінфармаваны.

Выглядае, што прадстаўленая В. Іваноўскім версія аб канфіскацыі ў Варшаве не адпавядала рэчаіснасці. Да таго не была гэта яго адзіная версія. Так, напрыклад, Луцкевіч, спасылаючыся на расказ Іваноўскага, пісаў у сваіх успамінах, што ўвесь тыраж "Свабоды" быў знішчаны яшчэ ў Лябёдцы, прычынай чаго было набліжэнне паліцыі. Аднак і гэтая версія мала пераканаўчая, паколькі паліцыя канфіскавала б і цыкластыль, якім карыстацца без дазволу улад было забаронена. Тым часам апарат быў спакойна адпраўлены ў Пецярбург і працягваў служыць беларускай справе /у 1903-1904 г.г. на ім адбіваліся "Калядная і Вялікодная пісанкі"/.



Такім чынам, паколькі не было канфіскацыі ў Варшаве і налёту паліцыі на двор у Лябёдцы, можна меркаваць, што "Свабода" была знішчана без удзелу паліцыі. Ведаем, што адбіты тыраж знаходзіўся ў руках Вацлава Іваноўскага, аднак, неверагодна, што ён сам знішчыў плён сваёй і таварышаў працы. Праўдападобна, у справу ўмяшаўся бацька, правадзейны стацкі саветнік, які на Каляды прыехаў з Пецярбурга ў Лябёдку і прытармазіў "рэвалюцыйныя парывы" 22-гадовага сына.

Аб гэтым дазваляе меркаваць яшчэ адна версія, апублікаваная ў 1921 годзе Бурбісам, версія тонкая і вымоўная, паводле якой ужо толькі "пры паліцэйскіх варунках усё выданне прышлося знішчыць". Так ці інакш, справа закончылася няўдачай, пасля чаго трэба было неяк растлумачыць таварышам факт знікнення "Свабоды". Пры гэтым Іваноўскі быў непаслядоўны і, як бачым, даваў штораз іншае тлумачэнне.

Узнікае пытанне, чаму гэты твор пецярбургскіх студэнтаў аказаўся такім небяспечным, што спатрэбілася яго знішчэнне. Поўны адказ на гэтае пытанне можа даць толькі дэталёвае знаёмства са зместам "Свабоды", калі камусь пашчасліўіцца яе адшукаць. З актаў справы Юрыя Іваноўскага яна знікла. Можна думаць, што падзяліла лёс іншых канфіскаваных прадметаў згодна з рэзалюцыяй начальніка Варшаўскага жандармскага ўпраўлення генерал-маёра Чаркасава ад 14 чэрвеня 1903 г.: "Вещественные доказательства уничтожить".

Усё ж пэўную характарыстыку зместу часопіса

прадставіць можна . Так, напрыклад, з кніжкі Станкевіча ведаем, што на яго васьмі старонках вялікага / канцылярскага / фармату быў змешчаны м. інш. адзін артыкул на палітычную тэму і другі аб асобнасці беларускага народу ў параўнанні з суседнімі народамі. Іх змест нам невядомы. Вядомы затое ўспомнены верш Цёткі "Мужыцкая доля", які не вызначаўся выразна рэвалюцыйным ці антыўрадавым характарам і неўзабаве быў перадрукаваны ў "Калядцай пісанцы на 1904 г."

Істотнае значэнне для акрэслення ідэйнай накіраванасці "Свабоды" прадстаўляе чарговы верш з яе першага нумара, знойдзены нядаўна ў фондах лонданскага архіва ППС , які захоўваецца ў Цэнтральным архіве ЦК ПАРП у Варшаве /сігнатура 305/III/55pt. 12/. Гэта верш Сыракомлі "Добрыя весці", які пасля перапрацоўкі рэдактарамі "Свабоды" атрымаў цалкам іншы сэнс, дастасаваны да новых умоў рэвалюцыйнай барацьбы. Перапрацоўка верша адбылася ў двух напрамках:

ж па-першае -- замены ўсіх антырускіх акцэнтаў. Так, напрыклад, такія радкі Сыракомлі, як "лягчэй будзе сэрцу, як згінець маскаль", або "не прыйдзе вораг з маскоўскага края" атрымалі ў "Свабодзе" наступнае гучанне : "лягчэй будзе сэрцу, як згіне наш цар" і "не прыйдзе вораг з чужога краю".

ж па-другое -- прапагандаваная Сыракомляй класавая згода і супрацоўніцтва паміж шляхтай і сялянствам у "Свабодзе" замяняецца ідэяй рабоча-сялянскай салідарнасці. Вось характэрны прыклад перапрацоўкі:



Сыракомля:

"Мужык з панамі стаіць за-пан-браце,
Рука за руку, а грудзь за грудзь.
Пяром на карце, ды сахой на ніве
Адзін другому роўнасць засцярог..."

"Свабода":

"Мужык з рабочым стаіць за панбраце
Рука за руку, грудзь за грудзь.
Рукой у фабрыцы, сахой на ніве
Адзін другому вольнасць засцярог..."

Цікава і тое, што перапрацаваны верш "Добрыя весці" праектаваўся выдаўцамі "Свабоды" як лістоўка да распаўсюджвання сярод беларускага насельніцтва. На гэта паказвае наступны дапісак на архіўным рукапісе:"Wicek prosi o wydrukowanie 2000 egz." "Wicek" -- гэта псэўданім Яна Руткевіча -- члена Цэнтральнага Рабочага Камітэта ППС. Аднак, лістоўка не была надрукавана, а тэкст верша вярнуўся ў Варшаву. Дзякуючы гэтаму ў наш час з'яўляецца ён цікавым і рэдкім сведчаннем аб "Свабодзе".

Урэшце, некалькі слоў да пытання, якая арганізацыя выдала гэты адзіны нумар "Свабоды". І тут выказваліся неаднолькавыя погляды. Бурбіс і Станкевіч лічылі, што выдаў яе пецярбургскі Круг беларускай народнай асветы, а Гарэцкі і Луцкевіч - што была яна органам Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады /БРГ/. Другі погляд выказваў і аўтар гэтых радкоў.

 



Аднак, знойдзены архіўны дакумент /"Добрыя весці"/ змушае перагледзець усе гэтыя выказванні. На ім знізу знаходзіцца наступны дапісак: "З № I "Свабоды" Б.П.Р.". Гэта ініцыялы Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі -- папярэдніцы БРГ. Да гэтай пары было вядома, што БПР у 1902 годзе выдала ў Пецярбурзе толькі адну гэктаграфаваную адозву "Да інтэлігенцыі". Сёння маем дакументальную падставу для сцвярджэння, што другім яе выданнем была "Свабода".

Ніва, 1981 г., №№ 43,44.

*Юры Туронак*

# ЛЯБЁДКА ІВАНОЎСКІХ




Упершыню гэтая назва запала ў памяць у абкружанай зімовым лесам утульнай і цёплай лясной хатцы. Як цяпер паўстаюць у памяці закутыя ў панцыр хвоі, ледзь прыкметная пад сьвежым настам сьцяжынка, маўклівы, таямнічы лес у месячным зіхценьні і такі адзінюткі і жаданы агеньчык у занесенай сумётамі хатцы... Лявон Антонавіч доўга тады апавядаў пра былое, знаёміў са сваімі артыкуламі, нататкамі. Так увайшла ў памяць Лябёдка. Ужо потым патрапіла чытаць успаміны А. Луцкевіча і кнігу Ф. Турука.

Колькі разоў прыходзілася шукаць на мапе гэты куточак, бываць пад Лідаю ды гутарыць з краязнаўцамі, і усё -- бязвынікова. Згадвалі Лябёдку, маленькую вёсачку ў 4 двары, што пад Жалудком, але гэта была не яна, не Лябёдка Іваноўскіх. Шукаў яе не толькі на гарадзеншчыне, але і ў Менску. Не, ніхто не бываў там, ніхто нічога ня ведае. Нават Інстытут літаратуры БАН не меў інфармацыі, хаця факт выданьня ў Лябёдцы газэты "Свабода" у гісторыі беларускага друкаванага слова займае пачэснае мейсца.

 

Пашчасьціла пабываць там летась, пасьля доўгіх распытваньняў і пераездаў пад Васілішкамі , куды скіраваў нас у пошуках Лябёдкі Лявон Луцкевіч.

Шаша Жалудок-Радунь узьбіраецца на пагорак,абапал дарогі -- могілкі. У створы старых дрэў далёка наперадзе , за шырокім полем на такім жа высокім пагорку зіхаціць на сонейку белымі сьценамі касьцёл , абапал яго туляцца хаты . Гэта Васілішкі -- край , што даў Беларусі такіх славутых людзей , як Алаіза Пашкевічанка /Цётка/ і Вацлаў Іваноўскі. Не без уплыву Іваноўскага Алаіза Пашкевічанка ўлілася ў беларускі адраджэнскі рух, праявіла свае арганізатарскія, літаратурныя здольнасьці... Там, за Васілішкамі , радзіма Цёткі, там жа знайшла яна заўчасна вечны супакой . Сумны крыж з чорнага мармуру каля дарогі -- адвечная памяць і незагайная балючая рана...

Але дзе радавое гняздо Іваноўскіх? Дзе тая таямнічая Лябёдка? Нас накіроўваюць на шырокую грунтоўку, што выходзіць праз Старыя Васілішкі. " Вось за касьцёл праедзеце кілямэтра 4 і зь левага боку ўбачыце Лябёдку. Але нічога такога там няма, маёнтак згарэў , адзін сад застаўся," -- запэўнілі нас людзі. Што ж, бярэм туды накірунак.

Гэта сапраўды Лябёдка , але не Іваноўскіх , а нейкага іншага дробнага пана. " У Лябёдцы Іваноўскіх цяпер інтэрнат , -- гаворыць нам стары дзед, што касіў траву ў садзе . -- А адшукаць яго лёгка. Ён па тым баку рэчкі Лябёдкі , адсюль нават бачны трохі. Паедзеце да Шэйбакоў, а там будзе дарога на Гурнофель і мост праз рэчку, вёска Галавічпольле . У ёй спытаеце , і вам пакажуць той інтэрнат."







Вось дык удача ! Як на крылах праляцелі мы тыя 10 кілямэтраў . Невялічкі масток праз рачулку . Няўжо Лябёдка? Гэта больш падобна на сьцёкавую канаву , чым на рэчку . Адсюль недалёка да самога маёнтка. Рэшткі старога парку , цяністыя высокія дрэвы . За густой алеяй ледзь праглядаюць сьцены сядзібы. Колькі прыходзілася вандраваць па Беларусі , бачыць сучасны стан старасьведчыны , але маёнтак нас уразіў. Уразіў сваёй захаванасьцю,хоць шмат гадоў тут месьціцца дзіцячы інтэрнат для псыхічна хворых. Нават вітражы , роспіс сьцен , чарапіца , усялякая дробязь, накшталт ручак, зашпілак -- усё засталося некранутым! Неверагодна і ... сорамна.

Убачыўшы нас, з чорнага ўваходу падыйшлі двое хлапцоў гадкоў 14-ці. Абое ў целагрэйках і кірзавых ботах . У аднаго ў руцэ кошык бульбы -- відаць дзяжурныя па сталоўцы. Божа мілы! Якімі вачанятамі глядзелі яны на нас , як распытвалі , хацелі чуць слова, бачыць увагу ! Бедныя, няшчасныя дзеці, маленькія ахвяры ўсіх парокаў гэтага прагніўшага наскрозь грамадзтва! Яны жывуць тут калоніяй да паўналецтва, працуюць у полі. У многіх ёсьць бацькі , якія прыяжджаюць праведаць сваіх дзетак.Большасьць зь іх , падросшы , папаўняе дамы для састарэлых , ці асядае тут, звыкшыся зь нялёгкай сялянскай працай.

Шчыльна да парку прымыкая эленькая, уросшая ў зямлю вёсачка ў дзесятак хатаў.Гэта Банюкі. Спрад-

веку тут жылі людзі, што працавалі ў паноў Іваноўскіх. Можа хто жывы яшчэ, памятае тыя часы? Першая зьлева хата. Нахілены плот і запусьценьне ў панадворку голасна сьведчыць -- дажываюць тут свой век старыя людзі. І мы не памыліліся -- гаспадар, Рыбак Франц Фадзеявіч , доўгага веку чалавек , шмат чаго бачыў . " З 1911 года яшчэ падлеткам працаваў я ў Леванарда Іваноўскага , -- распавёў нам стары. -- Вацлаў рэдка прыяжджаў дадому , бываў наездамі. Толькі пад сьвята зьбіралася ўся сям'я . Ён заўсёды прывозіў новыя кнігі , шмат чытаў . Па сьмерці старога пана маёмасьць падзялілі: "чырвоны корпус" / так празвалі сяляне сядзібу ў парку / дастаўся старэйшаму брату Станіславу і сястры Ганне. Вацлаў жа атрымаў ад бацькі невялічкі драўляны маёнтак у Рагачоўшчыне,што непадалёк ад цэнтральнае сядзібы.

Радавы склеп Іваноўскіх знаходзіўся непадалёк ад нашай вёскі напрыканцы парку. Там пахаваны былі бацькі . Але ненадоўга знайшлі тут супакой старыя косьці. Пасьля " вызваленьня " у 39-м кінуліся людзі шукаць клады , разрабавалі склеп, расправіліся з "ненавистными помещиками".Але гэтага было мала - у адчыненай тут калоніі дзеці гулялі ў футбол чарапамі... я сам бачыў. Ніхто не спыняў іх... Цяпер сьледа няма ад таго склепа -- цяперашні загадчык інтэрнату аддаў загад разараць гэты куточак парку пад поле, сеюць цяпер там бульбу..."

У маім архіве ёсьць фотаздымак. Стары чалавек з кійком пасярод поля. Шэрае, пахмурнае неба. Кійком Франц Фадзеявіч паказвае нам тое мейсца...



Доўга ён перад гэтым хадзіў, правяраючы трасіроўку алей , прыглядаўся да слупоў , пакуль не спыніўся каля сьвежай разоры пасярод поля...

Пакідаючы гэтыя мясьціны, заскочылі мы ў Рагачоўшчыну. Рэшткі парку і вялікая,правільнай формы палянка . Прыглядзеўшыся, можна ўбачыць контуры падмурку стаяўшага тут некалі невялікага драўлянага маёнтка.Непадалёк на полі ідзе праца -- кабеты зьбіраюць буракі. Каля адной з куч сядзіць старэнькая бабуля з вялізным нажом у руцэ ды адсякае бацьвіньне.

-- Дзень добры, -- падыходжу я бліжэй. -- Ці памятаеце Вы пана, што жыў вось тут, паблізу ?

-- Як жа, дзетачка, не памятаць. Усю мала - досьць у яго праработала . Вацлаў яго звалі. Добры быў пан, шкадаваў нас,па-просту гаварыў. Адно рэдка ён тут бываў, усё недзе там у Вільні ці Польшчы прападаў . З жонкаю не надта ладзілі. Перад вайной з фашыстам паехаў у Мінск, быў за рабочы клас. Але не ўбярогся -- нейкія бандзіты, ворагі народу, забілі яго... А пан ён быў добры...

-- Адкуль, бабулька, Вы ведаеце пра забойства, калі гэта было ? Як даведаліся аб гэтым ? -- цэлы шэраг пытаньняў.

-- Ой, дзетачка, дык людзі прынесьлі тую навіну. У нас усе гэта знаюць.А калі гэта было? -- задумалася старэнькая , падпёршы кулаком шчаку. -- Дык перад вайною з немцам гэта было, да...

Лябёдка Іваноўскіх, чырвоны корпус. Ты быў пабудаваны ў 1900 годзе на мейсцы старога,драўлянага

Можа, недзе ў тваіх скляпеньнях нараджалася немаўля , беларускае друкаванае слова, -- хто адкажа ? Маўчаць пакуль што польскія архівы. " Свабода "... Ты так і не дайшла да людзей, цябе задушылі, забілі... Так подла, з-за кута.

12, 13.9.90 г. *Алесь Жынкін*

Ад рэдакцыі: У Коўне каля ваенна-гістарычнага музэя жывуць нашчадкі Тадаса Іванаускаса Гэта адзіныя людзі , што прыяжджалі ў Лябёдку на разбуранае радавое гняздо. Яны хацелі ўмацаваць тут памятны знак, але з-за Вацлава Іваноўскага ім у гэтым адмовілі.

Раім чытачам зьвярнуцца да артыкула С. Астраўцова ў "ЛіМе" за 31 жніўня 1984 г.

# ПРА ВАЦЛАВА ІВАНОЎСКАГА

## ў брашуры *Юрыя Туронка* "Беларуская праблема ў палітыцы лонданскага лагера" . Варшава , 1983 г.

Дагэтуль дзейнасць Вацлава Іваноўскага ў перыяд нямецкай акупацыі Беларусі падчас другой сусветнай вайны гісторыкамі не была даследвана і нельга было знайсці ніякіх публікацый на гэтую тэму. Спроба Туронка закрануць гэтае пытанне з'яўляецца першая і таму вельмі цікавая. Вядома, брашура толькі старанной закранае асобу Іваноўскага,мо не ўсё адлюстравана зусім дакладна, але ўсё ж яна дакументальна доказвае прыналежнасць Іваноўскага да агульнай плыні антыфашысцкага руху, хаця і з арыентацыяй на заходніх аліянтаў. Гэта бадай самае істотнае для характарыстыкі яго асобы, бо вонкава магло выглядаць інакш.

Можна сумнявацца ў правільнасці расшыфроўкі назвы сціела законспіраванай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі, адным з лідэраў якое быў Іваноўскі. Паводле дакументальных дадзеных існавала ў той жа час арганізацыя БНП /Беларуская Незалежніцкая Партыя/. Туронак жа піша, што падпольная партыя, якой лідэрамі былі Вацлаў Іваноўскі , Янка Станкевіч і Станіслаў Грынкевіч мела назву БНП / Партыя Беларускіх Нацыяналістаў/. Можна выказаць меркаванне, што маецца на ўвазе адна і тая ж арганізацыя, судзячы па падабенству першых літар, канспірацыйнай структуры і палітычных канцэпцыях. Вядома , гэта сцвярджэнне не аканчальнае, а патрабуе

далейшых даследванняў.Некаторую засцярогу выклікае і само гучанне назвы : "партыя нацыяналістаў", паколькі на працягу даўжэйшага часу само паняцце"Нацыяналізм " разумелася як адмоўнае і не магло быць прывабным для прадстаўнікоў бальшыні кірункаў грамадскай думкі.

Брашура Туронка выдадзена на польскай мове. Прыводзім тут некалькі характэрных урыўкаў, якія непасрэдна адносяцца да асобы Івано ўскага, у перакладзе на беларускую мову.

"I9 чэрвеня 194I г., амаль на пярэдадні нямецкага нападу на СССР у Берліне адбылося сабранне галоўных прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў, што дзейнічалі ў Нямеччыне і Генеральнай Губэрні, на якім была створана новая арганізацыя пад назваю Беларускі Нацыянальны Цэнтр. Яна мела на мэце павялічыць спраўнасць кіраўніцтва , планіравання і каардынацыі мерапрыемстваў у выпадку спадзяванай акупацыі Беларусі. Старшынёй Цэнтру стаў кіраўнік Беларускага Камітэту у Варшаве Мікола Шчорс, а ў склад яго кіраўніцтва ўвайшлі: Анатоль Шкутка, Мікола Шкялёнак, Часлаў Ханяўка , Вітаўт Тумаш і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі /.../. З арыентацыяй на супрацоўніцтва з Трэцім Рэйхам гэтыя дзеячы звязвалі свае надзеі на арганізацыю ўласных узброеных сіл , а ў выпадку перамогі над СССР -- таксама на стварэнне асобнай беларускай дзяржавы пад нямецкім пратэктаратам . Пры такой устаноўцы справа адносін з Польшчай адыходзіла на далейшы план, а кантакты з польскім падполлем рабіліся непатрэбнымі.



Іншае становішча ў справе адносін з польскім эміграцыйным урадам і кіраўніцтвам падполля займала другая група беларускіх палітычных дзеячоў, каторай аснаўнымі прадстаўнікамі былі: Вацлаў Іваноўскі, Янка Станкевіч і Станіслаў Грынкевіч. Шансу перамогі Нямеччыны ацэньвалі яны скептычна, а акупацыю Беларусі разглядалі,як часовую з'яву і -- так як і польскае падполле -- арыентаваліся на заходніх аліянтаў і іх рашаючую ролю ў арганізацыі пасляваеннага ладу у Еўропе. У гэтых калькуляцыях быў асабліва пажаданы польскі саюзнік, з якім звязвалі надзею паставіць беларускую справу на міжнародным форуме на прынцыпе даўнейшай фэдэралістычнай канцэпцыі.Гэтыя дзеячы разлічалі на магчымасць пераадолець цяжкасці, якія галоўным чынам былі вынікам разыходжання становішчаў у тэрытарыяльнай справе, як і на дасягненне паразумення і наладжання супрацоўніцтва з польскім падполлем.

/.../ Здаецца, што акрэсленне тактыкі ў гэтай складанай справе наступіла ўжо у першай палове 1940 года ў Вільні і прадугледжвала падвойную ігру з гэткім падзелам галоўных роляў: Іваноўскі павінен быў заняцца дзейнасцю ў афіцыйнай сферы, а Станкевіч стварэннем канспірацыйнай групоўкі, якая ў вачах польскага падполля была б вольная ад закіду калабарацыі.

У чэрвені 1940 г. Станкевіч прыбыў у Варшаву і праз колькі месяцаў стварыў падпольную групоўку пад назваю ПБН/Партыя Беларускіх Нацыяналістаў/... Летам 194I г. ён распачаў спробы навязаць перага-

воры з Бюро Інфармацыі і Прапаганды Галоўнага камандавання Арміі Краёвай" /ст. 138-139/.

У артыкуле Туронка дэталёва раскрываюцца прычыны цяжкасцяў у паразуменні з польскім падполлем. Яны ў аснаўным былі вынікам становішча лонданскага эміграцыйнага ураду , які цвёрда стаяў на грунце граніц рыжскага трактату, разглядаў на гэтай аснове тэрыторыю Заходняй Беларусі,як польскую, і фактычна ні на крок не жадаў адступіць ад прынцыпаў палітыкі даваеннай Польшчы ў адносінах да беларусаў. Часам больш згаворчывымі аказваліся прадстаўнікі Галоўнага камандавання АК, якія ведалі сітуацыю ў краі і лепш разумелі карысць каардынацыі дзейнасці пры наяўнасці супольнага ворага --нямецкіх акупантаў . І не гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасці , піша далей Туронак: "Дзеячы гэтыя/Іваноўскі , Станкевіч і Грыневіч / паслядоўна рэалізавалі свае ранейшыя устаноўкі.

У палове лістапада 1941 г. Іваноўскі становіцца бурмістрам Мінска, а Станкевіч заняўся разбудовай канспірацыйнай ПБН і імкнуўся навязаць кантакты з кіраўніцтвам польскага падполля. У гэтай справе важную ролю адыграў Іваноўскі, які супрацоўнічаючы з ПБН выкарыстоўвае свае сувязі сярод уплывовых дзеячоў падполля ў Варшаве. У канцы лістапада 1941г. яго наведаў давераны афіцэр П аддзела Галоўнага камандавання /АК/ Самуіл Кастравіцкі, які вярнуўшыся ў Варшаву распачаў намаганні, каб стварыць адпаведны клімат дзеля перагавораў і пераканаць камандаванне аб іх мэтазгоднасці. Гэтыя намаганні дасягнулі пазітыўнага рэзультату, аб чым сведчыла радыкальная змена становішча ў справе кантактаў з ПБН /.../ З пачатку 1942 г. з'яўляюцца даклады Равэцкага аб узрастаючай антынямецкай апазіцыі сярод беларусаў у Мінску, якая шукае кантактаў з палякамі, а нават аб спадзяванай падтрымцы беларусамі паўстання , прадбачанага ў апошняй фазе вайны" /ст. 141-142/.



"Летам 1943 г. было створана Беларускае Нацыянальна-Дэмакратычнае Аб'яднанне /БНДА/ , у склад якога увайшлі ПБН, Народнае аб'яднанне, якім кіраваў Грынкевіч і іншыя драбнейшыя групы. Мэтаю гэтага была кансалідацыя сіл груповак, якія нават у ацэнках іх правадыроў не былі шматлікімі. Чарговыя перагаворы пачаліся ў канцы кастрычніка 1943 г. ў Вільні і трывалі з перапынкамі амаль два месяцы. Польскую старану прадстаўлялі упаўнаважаная Галоўнага камандавання АК Добжаньска і камендант віленскага округа АК палкоўнік Аляксандр Кжыжаноўскі , а Беларускае Нацыянальна-Дэмакратычнае Аб'яднан - не -- Станкевіч і Грынкевіч." /ст. 149/.

"Ва ўмовах існуючых палітычных супярэчнасцей , шансы дамовіцца ў галіне ваеннага супрацоўніцтва былі мінімальныя, аднак абодва бакі распачалі разглядаць праект стварэння на Беларусі супольных польска-беларускіх партызанскіх атрадаў"/ст.151/.

"Перагаворы ў Вільні не мелі поспеху і па - казалі цалкам безрэзультатнасць спробаў паразумецца з Польшчай, якія распачаліся ад паловы 1941 г. прадстаўнікамі ПБН, а пазней БНДА. Нямнога ў гэ-

тай галіне мог зрабіць і калектыў Бюро Інфармацыі і Прапаганды АК, якім кіраваў Макавецкі,бо не гледзячы на яго прыхільнасць да вядзення перагавораў з беларускай канспірацыяй не мог жа не лічыцца са становішчам /лонданскага эміграцыйнага/ ураду у справе рыжскай граніцы. А аб гэтае становішча разбіваліся ўсе ініцыятывы супрацоўніцтва незалежна ад таго, ці яны зыходзілі са стараны беларусаў ці палякаў.

У канцы 1943 года, праўдападобна пад уплывам рашэнняў Вялікай Тройкі ў Тэгеране /28.XI -- I.XII. 1943/, БНДА аканчальна перастала разлічаць на падтрымку польскага эміграцыйнага ураду, у сувязі з гэтым палічыла, што далейшыя кантакты з польскім падполлем не дасягнуць мэты. Не выключана, што на гэтую пастанову мела ўплыў таксама смерць Іваноўскага /7.XII.1943 г./, які быў стваральнікам і галоўным дзеячом заходняй арыентацыі" /ст. 153/.

Гэтыя урыўкі з брашуры Туронка прадстаўляюць постаць Вацлава Іваноўскага ў новым святле, прадстаўляюць сабой мала вядомы аспект яго палітычнай дзейнасці. Вядома, гэты аспект не бароніць Іваноўскага ад адмоўнай ацэнкі яго дзейнасці з пункту гледжання актуальнай сягоння гісторыяграфіі ў Савецкай Беларусі. Аднак для гісторыка ўсякія новыя аб'ектыўныя факты самі па сабе з'яўляюцца цікавымі.

Нельга абмінуць і яшчэ адзін фактар у дзейнасці групоўкі Іваноўскага падчас нямецкай акупацыі. Справа ў тым, што ўжо летам 1941 г. на акупаваных тэрыторыях Беларусі была створана сетка разведвальных экспазітур Галоўнага камандавання падпольных польскіх фарміраванняў, якія прыступілі да арганізацыі падпольных ваенных структур. Як піша Ю. Туронак: "Істотную ролю ў гэтым бачылі яны цераз апанаванне мясцовых цывільных уладаў, якія падчас існавання ваеннай адміністрацыі былі абсаджаны ў вялікай ступені палякамі. Гэта выклікала супрацьдзеянне беларусаў, якія імкнуліся да ўзмацавання сваіх пазіцый у прадбачанні барацьбы за будучыню гэтых зямель. Увосені 1941 г. пасля стварэння Генеральнага камісарыяту Беларусі і ўвядзення грамадзянскай адміністрацыі , палякаў пачалі адсоўваць са становішчаў і беларусізаваць адміністрацыю, паліцыю, школьніцтва і іншыя галіны грамадскага жыцця. У гэтай атмасферы памнажаліся канфлікты і ўзаемныя даносы немцам, што прыводзіла неаднаразова да трагічных вынікаў.

Адмоўны ўплыў на польска-беларускія адносіны выклікалі і непаразуменні на класавым грунце у сувязі з перадаваннем нямецкай адміністрацыяй маёнткаў іх былым уласнікам. Гэта выклікала канфлікты з сялянамі. /.../ У ваколіцах Ліды дайшло на гэтым грунце да бунтаў,жандармы застрэлілі некалькі дзесяткаў сялян. Немцы рабілі выгляд, што "звяртаюць" Польшчу" і такім чынам стваралі антаганізм паміж беларусамі і палякамі" /ст. 140/.

Вядома, такое становішча на акупаванай тэрыторыі Беларусі было б карысным толькі для нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Вацлаў Іваноўскі і яго аднадумцы якраз і імкну-

ліся цераз паразуменне з польскім падполлем звесці на мінімум узнікаючыя антаганізмы.

Тут цікава зазначыць, што адзін са старэйшых дзеячоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з пачынальнікаў беларускага адраджэння Вацлаў Івано ўскі, які на працягу усяго міжваеннага перыяду амаль зусім адыйшоў ад палітычнага жыцця і займаўся амаль выключна навуковай дзейнасцю, у экстрэмальных умовах другой сусветнай вайны ізноў праявіў грамадскую актыўнасць.

Гэтую актыўнасць ні ў якім разе нельга кваліфікаваць як палітычны кар'ерызм, што зрэшты ніколі не было характэрным для асобы Івано ўскага. У складаных і супярэчлівых варунках акупацыйнай рэчаістасці яго дзейнасць была накіравана на захаванне свайго народу, на ратаванне людзей, папаўшых у бяду;ён шукаў такой палітычнай канцэпцыі і тактыкі, якая магла б хоць у нейкай меры аблегчыць лёс свайго народу, з якога і без таго кожны чацверты стаў ахвяраю гэтай бязлітаснай вайны. І як бы ні былі сягоння супярэчлівымі ацэнкі яго дзейнасці, але ворагам свайго народу ён ніколі не быў і быць не мог. Аб гэтым сведчыць і ягоная роля ветэрана беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, і аб'ектыўныя факты яго пазнейшай дзейнасці.

А дзеля гэтага ў адносінах да асобы Вацлава Івано ўскага -- Вацюка Тройцы -- павінна захавацца ў памяці нашчадкаў самая глыбокая пашана.

каментарыі і пераклад з польскай Л. Луцкевіча

# ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ІВАНОЎСКАГА

Рука подлага злачынцы перарвала жыцьцё старэйшага сябры беларускага нацыянальнага вызваленчага руху, старшыні гораду Менска прафэсара хэміі, інжынэра і доктара хэмічных навук Вацлава Іваноўскага.

Нарадзіўся В.Іваноўскі у 1880 годзе на Лідчыне . Вучыўся у Расеі і заграніцай. Чалавек ён быў выняткавай працавітасьці і асягнуў вялікае веды, высока разьвіў свой інтэлект і меў непахісны сьветапагляд на сучаснасьць і пэрспэктыўнасьць жыцьця беларускага народу і увязкі яго з іншымі народамі Эўропы.

Сьв. п. В.Іваноўскі быў адным з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага руху , беларускага адраджэньня, адзін з нямногіх прафэсароў і навукоўцаў, які зразумеў, што беларускі народ ёсьць народам, і яму толькі трэба дапамагчы знайсьці дарогу да асьветы, да разбудовы дабрабыту. Абавязак яго, як вучонага, -- стаяць на чале народу, змагацца за ягонае лепшае прышлае. Ён зразумеў, што ні Варшава, ні Масква не зьяўляюцца фундамантальным абгрунтаваньнем іхнага удзелу у арганізацыі грамадзкага, гаспадарскага і палітычнага жыцьця Беларусі.І гэта у той час, калі было модным для многіх імкнуцца да

кар'еры, стаць інжынэрам , быць высока забясьпечаным урадаўцам і выдаваць сябе за расейца, або за паляка . Вацлаў Іваноўскі заявіў чынна , што ён ні паляк , ні расеец , што ён -- беларус. Гэтая сьмеласьць на гэны час была вельмі рызыкоўнай і цягнула за сабою нявыгады і прасьледы.

Вацлаў Іваноўскі з самага пачатку стабілізацыі сваёй сьведамасьці быў беларусам, і у 1907 годзе у Пецярбурзе распачынае арганізоўваць культурна-палітычнае жыцьцё сярод беларусаў . Выдае часапісы, кніжкі і газэты . Арганізоўвае беларускае жыцьцё, вядзе яго да заходніх праверанных аўтарытэтаў, падыймае жыцьцё угару і адчыняе яму пэрспэктыву.

Насоўвалася усходняя навала люмпэн-пралетарыяцкай экспансіі на Беларусь. У 1918 годзе Вацлава Іваноўскага высылаюць у Смаленскую катаржную турму. Па даўгім часе пабыту там, яго звальняюць. Бачачы перавагу цёмных сілаў , скіраваных супраць яго , адыходзіць на узбочча грамадзкае працы, становіцца толькі навукоўцам . Бальшавікі пачынаюць заігрываць і прапануюць яму з Вільні пераехаць на навуковую працу у Менск . Прапанову гэтую ён з пагардаю адкідае . Пэрыяд польскай пілсудчыны робіць імглістыя прапановы Вацлаву Іваноўскаму перайсьці на польскі бок , але і гэта ня вабіць яго. Ён працуе толькі прафэсарам вышэйшага навучаньня у Варшаве. І там ён, пры зачыненых дзьвярох свайго габінэту , вядзе крывіцкую работу сярод беларускіх студэнтаў, вучыць іх мацнець духам.

Зьняважлівы Вэрсальскі трактат дажываў свае



апошнія дні . Нямецкая армія у 1939 годзе парвала ланцугі Вэрсальскага трактату, а у 1941 годзе вызваліла Беларусь ад бальшавіцкага панаваньня. Вацлаў Іваноўскі , разам з маладымі запальнымі беларускімі юнакамі , становіцца на шлях змаганьня за правы і гонар беларускага народу спачатку у Вільні , а потым у Менску, дзе і загінуў на сваім становішчы, як жаўнер.

Сьв. п. В. Іваноўскі паў ад удару з-за вугла, ад удару бандыцкага, нікчэмнага, падступнага і сукрытабойнага, да чаго здольныя толькі бальшавікі і іхныя аднадумцы . Але накшталтныя удары не запалохаюць нас. На зьмену паўшым расьце новая сьведамая зьмена. Беларускі народ бярэ у рукі зброю для канчальнае перамогі над цёмнымі сіламі ворагаў. Лепш загінуць у змаганьні, як быць нявольнікамі Сталіна і ягонае зграі.

Перамога не дасягаецца без ахвяраў. І беларус верыць у перамогу над ворагам.Беларус адбудуе свой край і залечыць нанесеныя вайною раны, паставіць помнік загінуўшым за народную справу.

Вечная памяць адыйшоўшаму ад нас, ганьба замахаўцам і іхным аднадумцам!

**Новы Шлях . Менск , 1944 г., № 2**

*Юры Сабалеўскі*

# НА ПАХОВІНАХ

Успаміны былога вучня менскай беларускай школы

Пахмурная пачыналася ў той дзень раніца, шэрае неба навісла над горадам. Заняткі перапыніліся -- усіх нас, вучняў, сабралі на Пляцу Волі. Там, каля гарадзкое Ўправы, сабралася шмат народу . Як фатаграфічны адбітак , у памяці паўстае разбураны гатэль "Эўропа", груды шчэбня і каменьня на рагу цяперашніх вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай, людзкі натоўп вакол будынку, што быў некалі менскім Гарадзкім тэатрам ды ўвабраў у сябе шчырыя вітаньні першае беларускае оперы...

12я гадзіна. З Управы паціху выносяць дамавіну, гучаць кароткія жалобныя прамовы ды пачынаецца шэсьце . Па цяперашнім вуліцам Інтэрнацыянальнай і Рэспубліканскай на самыя Кальварыйскія могілкі цячэ людзкі натоўп. Людзей шмат. Калі галава з дамавінаю заварочвала на цяперашнюю Рэспубліканскую , дык канец яшчэ быў там , ля гарадзкое Ўправы на пляцу. Дзьве гадзіны ішлі. Малая Кальварыя не магла разьмясьціць усіх і , натуральна, мы, малыя, ня чулі апошніх слоў, ня бачылі апошняга абраду . Ведаю толькі , што цэлая тая магілка . Час татальных зьнішчэньняў абмінуў гэтае ціхае, сумнае мейсца...

20. 09. 90г.

# У С П А М І Н

Я нарадзілася у Мінску у 1912 годзе, у гэтым горадзе жыву ўвесь час. У вайну таксама жыла тут. Тады бургамістрам Мінска быў Вацлаў Івановскі. Памятаю пра яго забойства і пахаванне.

Вацлаў Іваноўскі ехаў на брычцы. У самым пачатку вуліцы Астроўскага, каля Кацярынінскай царквы, выляцелі з двара партызаны. Кінуліся на яго,выцягнулі наган і наганам забілі да паўсмерці . Я сама гэта не бачыла, але пра гэта гаварылі людзі. Памёр Іваноўскі праз некалькі гадзін у шпіталі. Ксёндз Зянон Ігнатовіч /служыў у Чырвоным касцёле/ застаў яго яшчэ жывога і ў шпіталі зрабіў яму астатняе намашчэнне.

Немцы загадалі ксяндзу Ігнатовічу хаваць В. Іваноўскага. Але той адмовіўся , сказаў, што Іваноўскі не каталік , і таму трэба спецыяльны дазвол біскупа. Званілі біскупу ў Вільню, але таго не было ў горадзе. Яго намеснік сабраўся ехаць у Мінск, але чыгуначныя пуці былі разабраныя, і ён з паўдарогі вярнуўся.

Міхаіл -- арганісты Чырвонага касцёла, пра ўсё гэта расказваў парафіянам, якія сабраліся ў касцёле. Казаў, каб чакалі, што хутка прывязуць Іваноўскага . А потым прыбягае і кажа , што яго павезлі папы ў царкву на рагу вуліц Камсамольскай і Інтэр-

нацыянальнай . Мы туды і пайшлі, але я ў царкву не заходзіла , стаяла на вуліцы. Бачыла , як выносілі труну, за ёй ішлі жонка і дачка / гадоў дваццаць / у чорных капелюшах з вуалем . А перад труной ішло многа папоў . Немцы стаялі збоку і фатаграфавалі. Труну паставілі на машыну і павезлі на Кальварыю . Людзі не пайшлі на пахаванне, бо баяліся партызанскай засады.

Назаўтра многія хадзілі на Кальварыю паглядзець, дзе пахавалі В. Іваноўскага. Я таксама хадзіла.

Яго пахавалі па цэнтральнай алеі з левага боку, ля касцёла ў першай агародзы. /Амаль насупраць чорны гранітны помнік з надпісам: " S.P. Eicir-dów"/. У гэтай агародзы былі і ранейшыя пахаванні. Калі стаць тварам да агародзы,то магіла Іваноўскага -- злева.На магіле быў пастаўлены драўляны крыж з надпісам на беларускай мове. Хутка пасля 3 ліпеня 1944 года надпіс знік, а крыж стаяў яшчэ доўга, гадоў пятнаццаць.

15.8.90 г.

*Алена С.*

# ЯШЧЭ ПРА ЗАБОЙСТВА В. ІВАНОЎСКАГА

У сувязі з узьнятай апошнімі гадамі ў беларускім друку на эміграцыі справай забойства праф.Вацлава Іваноўскага, старшыні Гарадзкой управы Менску ў часе нямецкай акупацыі Беларусі ад лістапада 1941 г. да сьнежня 1943 г., уважаю за свой дабрасуседзкі абавязак успомніць гэта ды зьвярнуць увагу на некаторыя мамэнты зь ягонага жыцьця й дзейнасьці ў гэным часе.

Праф. Іваноўскі, прыехаўшы ў Менск, спачатку жыў у раёне Ўнівэрсытэцкага гарадка пры вул.Ленінградзкай, а апошні год -- у раёне Юбілейнага пляцу пры Ратамскай вул. ў партэровым двукватэрным драўляным дамку , які знаходзіўся як-бы ў гародзе, на мэтраў 50 ад вуліцы.

У квартале дамоў пры самой Ратамскай вул., таксама аднапавярховых,жылі знаёмыя прафэсара, перавежна працаўнікі Ўправы й артыстыя гарадзкога тэатру. Другі ідэнтычны дамок, таксама воддаль ад вуліцы, але бліжэй да пустога рынку збоку, займалі судзьдзя Лявон Галяк , Язэп Найдзюк і я. За нашымі дамамі пачынаўся натуральны даволі глыбокі адхон, зарослы кустоўнікам, які цягнуўся ў кірунку Татарскіх гародаў.

Дамок праф.Іваноўскага ніколі й нікім не ахоўваўся,да яго можна было падыйсьці ў кожную пару

дня й начы.

З прафэсарам жыла толькі ягоная дачка, якая была за гаспадыню дому. Іваноўскія ня мелі ніякіх слугаў; прафэсар любіў займацца кулінарствам і рыхтаваць абеды ня толькі для сябе, а й для частых гасьцей.

Менская гарадзкая ўправа часу праф. Іваноўскага захоўвала лібэральныя традыцыі ягонага папярэдніка др. Вітаўта Тумаша. На адказных становішчах кіраўнікоў аддзелаў /ня кажучы аб ніжэйшых працаўнікох/ былі людзі розных палітычных перакананьняў і рознае нацыянальнасьці. Досыць згадаць для прыкладу хоць некаторых.

Першым заступнікам старшыні Ўправы быў Дзямідовіч-Дзямідэцкі, прафэсійны ваяводзкі польскі урадавец, які зь Менску эміграваў у Польшчу па Першай сусьветнай вайне. Ён не хаваў сваіх прапольскіх сымпатыяў, хоць і ўважаў сябе за Беларуса. Кіраўніком гаспадарскага аддзелу, вельмі важнага ў ваенным часе, быў Баляслаў Берут, польскі камуністы, пазьнейшы першы прэзыдэнт Польскай Народнай Рэспублікі, выдатны спэцыялісты й ляяльны працаўнік. Па двух гадох працы Берут узяў вакацыйны адпачынак ды ўжо ў Менск не вярнуўся.

Кіраўніком фінансавага аддзелу таксама быў камуністы праф. Манаў. Абодвы -- і Берут і Манаў -- цьвердзілі, што яны больш за камуністых сябе не ўважаюць і ніякіх партыйных сувязяў ня маюць.

Загадчыкам аднаго з тэхнічных аддзелаў /здаецца, электраэнэргіі/ быў інжынер Гэбрэй зь Вільні.



З даручэньня праф. Іваноўскага я забясьпечыў ягонай жонцы працу перакладніцы ў музэі на вымаганы час, дзеля атрыманьня належных дакумэнтаў для сталых жыхароў гораду.

Калі некага з працаўнікоў Управы арыштоўвала СД, як гэта ад часу да часу здаралася, праф. Іваноўскі стараўся бараніць арыштаванага, хоць не заўсёды з пазытыўным вынікам. За выдаваньне пашпартоў Гэбрэям загінуў кіраўнік пашпартнага аддзелу.

Пазыцыя старшыні Гарадзкой управы ня была зайздроснай, часта даводзілася бараніцца ад даносаў на сябе самога. Іваноўскага-ж жыхары гораду любілі, ён ніколі не карыстаўся ніякай аховай, свабодна езьдзіў па горадзе аднаконнай брычкай, або хадзіў пехатой.

Дачыненьні Іваноўскага зь Немцамі былі вельмі розныя. З рэспэктам ставіўся ён да генэральнага камісара Кубэ і патрапіў добра зарганізаваць супрацу /дарэчы, забойства Кубэ таксама выглядае загадкавым/, нецярпеў розных, як ён казаў, "недавучкаў" на партыйных становішчах, хаця ад іх шмат залежала, часта й жыцьцё.

Праф. Іваноўскі беззаганна валодаў нямецкай мовай і ў сваіх публічных выступленьнях, часта разам з Кубэ, любіў цытаваць жартаўлівыя нямецкія народныя пагаворкі.

Сьмерць праф. Іваноўскага ў тыя часы ў Менску ня выклікала сумляваньня, што зьгінуў ён з загаду шэфа СД Штраўха, ніхто не надаваў значаньня таму, як называўся чалавек, які страляў зь пісталету ў

Івано́ўскага. Да падаваных у друку довадаў пра дачыненьне нямецкае тайнае паліцыі да забойства Іваноўскага можна дадаць яшчэ гэткія:

1/ Праф Іваноўскага заўсёды маглі зьнішчыць бальшавікі ў ягонай хаце, якая стаяла адзінцом, мэтраў дзесяць ад адхону, -- маглі падпаліць, закінуць бомбу ў вакно ды спакойна, тым-жа адхонам, выйсьці за горад. Тымчасам Іваноўскі быў забіты на тэрыторыі ахоўванай Смаленскім СД, паліцыйнай расейска-нямецкай арганізацыяй, якая карысталася бальшавіцкімі мэтадамі працы, ды ледзь не насупраць галоўнае кватэры гэтае арганізацыі.

2/ Праф. Іваноўскі быў зь веравызнаньня пратэстантам-кальвіністым, і як такому, належаліся яму паховіны кальвініскага абраду, з кальвініскім пастарам і на Менскіх пратэстанцкіх могілках. Так хавалі Пранцішка Аляхновіча ў Вільні. Тымчасам паховінамі праф. Іваноўскага, з даручэньня ген. фон Готбэрга, займаліся Архіепіскап Філафей, фактычны кіраўнік Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, і праваслаўнае менскае духавенства на каталіцкіх Кальварыйскіх могілках. Іваноўскі быў пахаваны ў клюмбе кветак перад уваходам у касьцёл. Гэтая штучная ўрачыстасьць выклікала ў мянчанаў уражаньне, што гэтак фактычныя забойцы стараюцца, як кажуць, замесьці сьляды свайго злачынства.

3/ І наапошку яшчэ адна дэталь з паховінаў. З усіх прамоўцаў на асаблівую ўвагу заслугоўвала прамова др. Франука Грышкевіча, ведамага ранейшага камуністычнага дзеяча ў Заходняй Беларусі, які прыбыў на паховіны зь віленскай дэлегацыяй. Др. Ф. Грышкевіч высака ацаніў лібэральнае стаўленьне нябожчыка да людзей у цяжкіх абставінах вайны, катэгарычна запярэчваў удзел бальшавікоў у забойстве прафэсара. Прыгожа сказаная прамова Ф. Грышкевіча была апошняй, і пад ўражаньнем яе ўдзельнікі паховінаў пакінулі могілкі.



**Беларус. Нью Ёрк, 1985 г., № 325**

*Антон Шукелайць*

# АБ ПРАФЭСАРУ В. ІВАНОЎСКІМ

Успамін

/ З архіву Беларускага Інстытуту
Навукі й Мастацтва /

У Менску ў часе нямецкае акупацыі нацыянальны актыў зьбіраўся нелегальна па прынцыпу "пяцёрак". На зборках дыскутавалася тагачасная палітычная праца, рабіліся пляны на будучыню , шмат увагі аддавалася справе падбору кадраў незалежніцка думаючага нацыянальнага актыву, які-б ахопліваў шырэйшую тэрыторыю, асабліва раёны Беларусі, што знаходзілася непасрэдна пад ваенным камандаваньнем. Немцаў ніхто не ідэалізаваў , у тым ліку й такія дзеячы, як ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі і праф. Вацлаў Іваноўскі.

На аднэй з такіх зборак, наколькі памяць дазваляе прыпомніць, на пачатку вясны 1943 году / на зборцы нас тады было чалавек 6-7/, пасьля войстрае дыскусіі мы пастанавілі , што настаў час рэагаваць на злачынную нямецкую палітыку ў дачыненьні да беларускага вясковага жыхарства . Нехта выказаў пагляд, што Немцы, відаць, прыступілі да выкананьня сваіх плянаў вынішчэньня беларускага насельніцтва ўсьлед за гэбрэйскім. Узяў слова прафэсар Іваноўскі. Ён выказаўся прыблізна гэтак : " Бясспрэчна,



што далей нельга цярпець таго, што робяць Немцы. Мы пратэставаць павінны і будзем. Але рабіць гэта трэба прадумана. Пабачым, што мы зможам зрабіць. Адно нам трэба не забывацца, што бальшавікі вынішчылі каля мілёну нашых людзей. Такога мы дапусьціць больш ня можам, і я згодны, што мы мусім дзеяць. Будзем бараніцца і, калі трэба, будзем шукаць дапамогі ў суседзяў" . Пад "суседзямі" Іваноўскі разумеў, як выглядала, Палякоў.

Як ведама, хутка па тым , праф. Іваноўскі інтэрвэніяваў у генэральнага камісара ды паслаў ці адзін рапарт і іншым нямецкім палітычным дзеячам.

Наколькі мы маглі тады ацаніць сытуацыю, некаторыя зьмены, палепшаньні ў стаўленьні Немцаў да беларускага жыхарства ўсё-ж наступілі. Што перашкаджала тады наладжаньню большага адміністрацыйнага беларускага кантролю , гэта шырака разгорнутая правакацыйная дзейнасьць бальшавіцкае партызанкі й падпольля. Бясспрэчна , захады перад Немцамі праф. Іваноўскага мелі і значаньне і ўплыў. Наагул, пасьля забоўства ксяндза В. Гадлеўскага напрыканцы 1942 году, прафэсар Іваноўскі быў найбольш уплывовы палітычны дзеяч . Карыстаўся ён аўтарытэтам як сярод Беларусаў , гэтак і сярод Немцаў, хоць шмат хто ў Менску ўважаў праф. Іваноўскага за пра-польска настроенага. На мой пагляд,ягоная "пра-польскасьць" у тым часе была прадуманая, тактычная. На аднэй з нашых зборак ён адкрыта нам заявіў: "З Палякамі сувязі трэба мець. Ад іх можна будзе атрымаць падтрымку ў барацьбе з Масквой. Палякі народ

не такі ўжо вялікі , нас яны не праглынуць, а як саюзьнік яны нам могуць быць выгодныя" . Фактычна, беларускаму актыву было ведама,што ў праф. Іваноўскага сувязі з Палякамі ёсьць. Ведалі аб гэтым,напэўна і Немцы. Ды зрэшты,як ні дзіўна цяпер здаецца,у Менску падчас нямецкае акупацыі было значнае гняздо Палякоў на чале зь Берутам і Дзямідовіч-Дзямідзецкім , Беларусы, у тым ліку й Іваноўскі, у меру магчымасьцяў гэтых Палякоў выкарыстоўвалі.Гэтыя кантакты В. Іваноўскага зь менскімі Палякамі былі,відаць, патрэбныя й Немцам. Немцы адно ня ведалі, прынамся з самага пачатку, што праф. Іваноўскі быў моцны апазыцыянер да нямецкае палітыкі.

Калі-ж пад канец лета 1943 году з Бэрліну прыйшла вестка, што ў Бэрліне згадзіліся на ўтварэньне беларускага ўраду / як ведама, аб патрэбе стварэньня беларускага ўраду Беларусы гаварылі Немцам ад самага пачатку вайны / , дык было ясна, што найбольш адпаведная асоба на становішча кіраўніка ўраду будзе прафэсар Вацлаў Іваноўскі.Аднак да нас хутка дайшлі весткі празь беларускую паліцыю, якая мела сваю контр-разьведку ў радох савецкіх партызанаў , што асобай праф. Іваноўскага ў ролі кіраўніка будучага беларускага ўраду надта запалоханыя камуністы ды што камуністам будзе вельмі наруку Іваноўскага зьнішчыць.

Беларуская контр-разьведка даводзіла таксама да ведама , што нейкі Івашкевіч уцягнуты ў змову супраць В. Іваноўскага . Прозьвішча Івашкевіча ўсплывала ўжо сярод менскага нацыянальнага актыву



ня раз. Справа ў тым, што гэтая асоба была ў даверы ў шмат каго ў беларускім актыве , ды бараніў Івашкевіча і сам праф. Іваноўскі , калі аднойчы на зборцы "пяцёркі" яму было аб гэтым сказана. / Здаецца, гэты Івашкевіч быў у нейкім сваяцтве зь Іваноўскім празь ягоную першую жонку /. Былі моцныя падозраньні, што і Івашкевіч і ягоная жонка / звалася яна здаецца, Вольга Мянжыеўская / зьвязаныя і з бальшавіцкімі партызанамі і з Палякамі.

Незадоўга перад трагічным днём на паседжаньні аднае зь "пяцёрак" прадстаўнік беларускае паліцыі зноў сказаў Іваноўскаму,што вакол яго стаяць занадта падазроныя асобы. Праф. Іваноўскі гэтаму запярэчыў і ня прыняў папярэджаньня сур'ёзна. Неўзабаве , аднак , выявілася, што нейкія колы былі ўсё-ж моцна занепакоеныя тым , што заплянаваны беларускі ўрад можа быць ачолены прафэсарам Вацлавам Іваноўскім. Іваноўскі быў зрэзаны куляй, стаўся чароднай палітычнай ахвярай . Для нас гэта быў вельмі трагічны выпадак, бо наш рух страціў умелага палітыка й актыўнага дзеяча. Трагічнасьць паглыблялася яшчэ й тым,што ў гэтым забойстве заставалася шмат нявыясьненага . У Менску хадзіла колькі вэрсіяў магчымых прычынаў забойства праф.Іваноўскага. Адна зь іх была гэткая : удзень забойства праф. Іваноўскі працаваў паводля іншага раскладу як звычайна . Быў зь ім у той дзень у Гарадзкой Управе той самы Івашкевіч. Івашкевіч з працы пайшоў быццам-бы, раней і спаткаўся каля Управы зь нейкімі людзьмі. Аб гэтым нам казалі беларускія паліцыянты. Праф. Іва-

ноўскі нібы-та паехаў дахаты з працы іншай дарогай і каля будынку Смаленскага СД адбыўся замах на яго. Замах быў выкананы, як казалі, двума мужчынамі. Хутка пасьля забойства паліцыя затрымала Івашкевіча падарозе ў лес да партызанаў. Што зь ім сталася далей, -- ня ведама.

Вось гэткія ў маёй памяці засталіся ўспаміны аб гэтай трагічнай падзеі. Для нас тады ў Менску было ясна, што ў гэтым забойстве шмат загадкавых мамэнтаў. Гэтак мне яно здаецца й цяпер. Адно толькі відавочна:для беларускага руху забойства прафэсара Вацлава Іваноўскага было вялікай стратай.

1967 г. *Яухім Кіпель*

**Беларус. Нью Ёрк, 1985 г., № 327**

# ПРА ЗАБОЙСТВА ІВАНОЎСКАГА у кніжцы *Юрыя Туронка* "Беларусь пад нямецкай акупацыяй".

Зацяжны канфлікт паміж службамі СС, СД і Генеральным Камісарыятам Беларусі ў 1943 годзе знайшоў заканамерную разьвязку. Рукамі савецкіх партызан пры непасрэдным веданьні СС і СД у ноч з 21 на 22 верасьня быў забіты Вільгельм Кубэ. Выконвацъ абавязкі Гаўляйтэра Генеральнага Камісарыяту Беларусі быў прызначаны фактычны кіраўнік СС і паліцыі на Беларусі Курт фон Готбэрг.

Радаслаў Астроўскі да гэтага часу быў высланы з Беларусі ў Смаленск і фактычна быў выведзены з палітычнае арэны непасрэдна Вільгельмам Кубэ. З яго забойствам перад Р. Астроўскім зьнікла галоўная перашкода ў яго палітычнай дзейнасьці. Ужо ў пачатку кастрычніка 1943г. ён перабіраецца ў Баранавічы, дзе пачынае прыймаць захады па стварэньню сваёй беларускай арганізацыі.

Вось што далей піша Ю. Туронак:

"Няма сумненьняў, што Астроўскі -- непасрэдна, або праз сваіх нямецкіх пакравіцеляў, зараз жа пачаў пераконваць Готбэрга у неабходнасьці стварэньня на Беларусі цэнтральнага воргану самакіраваньня. Шмат чаго сьведчыць аб тым, што перамена стаўлення Готбэрга да гэтай справы ішла паступова. Існавала сама меней тры акалічнасьці, якія выступалі супраць рэалізацыі гэтага праекту: па-першае, дырэктывы Берліну забаранялі склікаНьне такога воргану, па-другое, фармальна кажучы, існаваў яшчэ

Камітэт Даверу , з якім, аднак -- у дачыненьні да Іваноўскага -- Готбэрг супрацоўнічаць не жадаў. Урэшце, па-трэцяе, ён не верыў у магчымасьці беларускага нацыяналізму і не сьпяшыў разыграць гэтую карту. З другога боку, Готбэрг мусіў прытрымлівацца погляду, што такі ворган адыграў бы пэўную прапагандысцкую ролю, а затым быў бы выгодным інструмантам у вайне з партызанамі.

Свае намеры і засьцярогі ў справе беларускай палітыкі Готбэрг прадставіў у першы раз падчас арганізаванай 22-23.XI.1943 канфэрэнцыі ОМі/рэйхміністэрства на акупуваных усходніх абшарах --заўвага выдавецтва/, дзе удзельнічалі вышэйшыя чыны са сталым намесьнікам Розэнбэрга Мейерам на чале. У далейшым выражаў ён недавер да беларусаў, каторых абвінавачваў у супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі, даводзіў, што яны не разумеюць сваёй мовы; выступаў супроць стварэньня культурных інстытутаў, напрыклад, тэатру ў Менску, дапускаючы толькі культурную дзейнасьць на нізшым узроўні. Выказаўся , аднак , за паскарэньне працэсу выданьня школьных падручнікаў, а таксама за працяг дзейнасьці арганізацый самапомачы і СБМ, якія ацэньваў выключна ў аспэкце прапагандысцкага ўздзеяньня на грамадзтва.

Пытаньне скліканьня воргану, аб якім хадай - нічаў Астроўскі , Готбэрг у той час успрыняў як другаснае. Не вызначыў яго будучай назвы, не акрэсьліў межы дзеяньня, выказаўся толькі, што той мог бы выконваць хіба што дарадчыя функцыі. Тым болей



не ўвязваў ён у тым часе праект склікаьня БЦР са стварэньнем беларускіх узброеных сіл, што бадай усе дасьледчыкі лічаць за галоўны матыў яе утварэньня. Карацей кажучы, Готбэрг гаварыў на той канфэрэнцыі не аб склікаьні новага воргану, а пра магчымую актывізацыю існуючай Рады Даверу, што згодна з пазыцыяй Бэрліну мела на мэце, верагодна, пераконваньне ўдзельнікаў канфэрэнцыі , што няма патрэбы ў выданьні у гэтай справе дадатковых заканадаўчых актаў. Але гэта была спроба Готбэрга абыйсьці не абяцаючай посьпеху фармальную працэдуру. Вынікі той канфэрэнцыі сьведчаць, што Готбэрг схіляўся на самай справе да выкарыстаньня праекту Астроўскага, але ж у канцы лістапада справа БЦР не была яшчэ канчаткова вырашана. Упіралася гэта ў пытаньне кіраўніцтва , бо абраньне Астроўскага прэзідэнтам рэарганізаванай Рады Даверу магло наступіць толькі пры адстаўцы ці адхіленьні Іваноўскага са становішча яе старшыні. Але Готбэрг, хоць і быў зацікаўлены ў тым, каб пазбавіцца Іваноўскага, не адклікаў яго і не патрабаваў ягонай адстаўкі, пакідаючы гэтую справу Астроўскаму і яго прыхільнікам.

Спачатку, шляхам падкідваньня да дому Іваноўскага ананімных пагрозаў , спадзяваліся, што ён зьедзе з Менску. Пасьля бязвыніковых захадаў распачата было рыхтаваньне замаху. 6 сьнежня падчас вяртаньня Іваноўскага з гарадзкой Управы дадому на яго напалі два чалавекі , з якіх адзін, Аляксандар Камінскі , папярэдне служыў у менскай паліцыі і

"уцёк" да партызанаў -- і стрэлілі ў яго некалькі разоў. Але ж яны не былі смяртэльнымі. Івануўскі тут жа быў прывезены ў гарадзкі шпіталь, дзе, пакінуты без лекарскай дапамогі, памёр назаўтра, 7.XII.1943г. Замах гэты досыць выразна прадказваў Готбэрг яшчэ 22 лістапада на згаданай канфэрэнцыі ОМі, зьвязваючы яго з намерам актывізацыі Рады Даверу і інфармуючы, быццам ён будзе выкананы самімі беларусамі. Сьмерць Івануўскага аднолькава ляжыць на Астроўскім, як інспіратары, так і на Готбэргу, з ведама і дазваленьня якога яна наступіла.

Гэтая сьмерць адсунула апошнія перашкоды на шляху Астроўскага да БЦР. Неўзабаве пасьля замаху акруговым камісарам у Баранавічах Рудольфам Вернерам было склікана пасяджэньне мясцовага актыву, каторае высунула кандыдатуру Астроўскага на прэзідэнта БЦР. Гэта было раўназначна народнаму мандату, на каторы пазьней былі пакліканы Готбэрг і Астроўскі."

Каментары і пераклад з польскай: Сьвятланы і Алеся Жынкіных

# ЗЬМЕСТ



На вокладцы зьмешчаны малюнак з часопіса "Новы Шлях", 1944 г., №2

